


# ПАЛІТЫКА

## Праект Канстытуцыі:
## Ці настаў час сказаць апошняе слова?

ПЯТЫМ ПУНКТАМ парадку дня дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі стаіць пытанне аб праекце Канстытуцыі рэспублікі. Пасля доўгага зацішша, ў час якога па сведчанню саміх дэпутатаў ні разу не ўдалося сабраць у поўным саставе нават членаў Канстытуцыйнай камісіі, праект неспадзявана апынуўся ў цэнтры ўвагі і прэсы, і Вярхоўнага Савета. Якія ж змены адбыліся ў грамадстве, што канстытуцыйнае пытанне выйшла на першы план у палітычным жыцці краіны?

Як ні парадаксальна прагучыць адказ, але галоўная прычына такога становішча ў адсутнасці істотных змен ў жыцці народа. Зразумела, маюцца на ўвазе змены да лепшага. Праблемы людзей становяцца ўсе вастрэйшымі, спасылкі на нявопытнасць парламента, ўрада, на адсутнасць добрых законаў больш не задавальняюць людзей.

І вось прыйшла чарга Канстытуцыі выканаць сваю ролю «буфера» клапана для адводу народнага незадавальнення сваім цяжкім становішчам. Між іншым, адной з прычын яго пагаршэння, на наш погляд, з'яўляецца неаднаразова дэклараванае імкненне ўлады захаваць стабільнасць грамадства, забяспечыць павольны, эвалюцыйны характар змен. Але на справе гэты высакародны парыў абарачаецца нерашучасцю, супярэчлівасцю рашэнняў і прыводзіць да адваротнага выніку — пагаршэння эканамічнай сітуацыі і павелічэння раздражэння людзей дзеяннямі ўлады.

Дарэчы, сам гэты, на першы погляд, непрадказальны эфект, найбольш яскрава сведчыць пра ўзровень кампетэнтнасці існуючай улады і аб яе сапраўдных намерах. Вядома, што ў эпоху, калі грамадства пераходзіць з аднаго стану ў другі, як Беларусь з таталітарнага ў дэмакратычны, вельмі важна забяспечыць дынамізм гэтага працэсу, своечасова прымаць рашэнні і здымаць перашкоды. Гэта, зразумела, патрабуе бачання перспектывы, ведання справы і вялікай адказнасці. Магчымыя, або, нават, непазбежныя і памылкі. Але жаданне вывесці краіну з крызісу павінна быць вышэй за ўсе.

Зусім іншы абарот набываюць падзеі, калі сілы, якія прыйшлі да ўлады, пачынаюць кіравацца жаданнем любой цаной гэту ўладу захаваць, а разам з ёй захаваць тыя даброты, якія непазбежна з ёй звязаны. Тады ў іх дзейнасці з'яўляецца славутая «памяркоўнасць», ці прасцей кажучы, боязь радыкальных рашэнняў, адказнасці за іх наступствы. Пачынаецца пошук такіх крокаў, якія маглі б засведчыць грамадству вялікую заклапочанасць народных выбраннікаў за яго лёс, і ў той жа час былі б бяшкоднымі і для іх уласнага лёсу.

І пытанне аб Канстытуцыі якраз дае такую магчымасць, асабліва, калі ўлічваць наўмольнае набліжэнне ўсебеларускага рэферэндуму і вельмі верагодных датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет.

З напісанага вышэй зусім не вынікае, што пытанне аб Канстытуцыі несвоечасова. Яно вельмі важнае, набалелае і павінна вырашацца як мага хутчэй. Але ж задамо сабе пытанне: што такое Канстытуцыя і якія аб'ектыўныя ўмовы патрэбны, каб стала магчымым выпрацаваць дэмакратычную Канстытуцыю, сапраўдны асноўны закон жыцця грамадства?

Перш за ўсё, трэба добра ўсвядоміць, што Канстытуцыі ствараюцца на вякі, яны павінны быць свабодны ад сённяшняй мітусні і неадкладных, праходзячых інтарэсаў. Між тым, менавіта ў часы, падобныя тым, што перажывае зараз Беларусь, існуе найбольшая спакуса ўціснуць у Канстытуцыю ўсемагчымыя, часам процілеглыя патрабаванні, якія нараджаюцца ў грамдстве. Інакш кажучы, ўзнікае сітуацыя, як у добрым французскім анекдоце. Калі нехта ў кнігарні спытаў дзеючую канстытуцыю, гаспадар адказаў: перыёдыку не трымаем.

На жаль, прапанаваны Вярхоўнаму Савету да абмеркаання ў другім чытанні праект Канстытуцыі мае зашмат такіх азначэнняў і палажэнняў, якія адлюстроўваюць своеасаблівасць пераходнага моманту. Адначасова з тым праекту нестае сапраўды канцэптуальных вызначэнняў, якія маглі б пацвердзіць рашучасць дзяржавы ўвайсці ў цывілізаваную супольнасць. Гэта датычыцца, напрыклад, уласнасці, арганізацыі мясцовага самакіравання і іншых пытанняў.

Другой важнай умовай прыняцця эфектыўнай Канстытуцыі з'яўляецца дасягненне агульнай згоды ў грамадстве наконт найважнейшых рыс сумеснага жыцця. Гаворка ідзе не аб тых кампрамісах, на якія ідуць палітыкі паза спінамі простых людзей дзеля захавання ўлады. Маецца на ўвазе наяўнасць ясных перспектыў, рэальных падыходаў да справы, якія былі б адобраны пераважнай большасцю грамадства. Але аб якой згодзе можна гаварыць, калі нават у прадмове да апублікаванага 22 жніўня гэтага года ў «Народнай газеце» праекта Канстытуцыі намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета і кіраўнік рабочай групы па падрыхтоўцы праекта В.Шаладонаў сцвярджае: «Новые подходы к формированию высшего законодательного органа республики...и самое главное — подготовка выборов на новой правовой основе, необходимость обеспечения перехода к иному качеству государственной власти делает бессмысленным референдум о досрочном прекращении полномочий Верховного Совета республики».

Нам здаецца, што гэта выказванне дае вычарпальны адказ на пытанне аб сапраўдных мэтах сённяшніх заканадаўцаў. Але адначасова дазваляе паставіць іншае пытанне: а ці ў стане прыняць дэмакратычную канстытуцыю парламент, які здольны ігнарааць волевыяўленне соцень тысяч выбаршчыкаў, а па сутнасці — ўсяго беларускага народа.

Няхай адказ на гэта пытанне дасць сам чытач. А мы звернемся да аналізу праекта Канстытуцыі, яго канкрэтнага зместу ў наступным артыкуле.

**У. ЯКУБОЎСКІ.**

## Навіны дэмакратычнага руху

15 кастрычніка адбылося чарговае пасяджэнне ініцыятыўнай групы па стварэнню Магілёўскага грамадзянскага камітэта. Прадстаўнікі розных дэмакратычных арганізацый і плыняў абмеркавалі палітычнае становішча ў Беларусі напярэдадні сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі, перспектывы і ўмовы правядзення ўсебеларускага рэферэндуму, яго магчымыя вынікі.

Выступаючыя, у прыватнасці, адзначалі рэзкі дысбаланс суадносін заканадаўчай і выканаўчай улад на карысць урада, які ў апошні час дэманструе вялікую актыўнасць, у тым ліку ў ігнараванні заканадаўчых актаў. Прысутныя з разуменнем сустрэлі меркаванне аб спробе вышэйшага Кіраўніцтва рэспублікі змяніць змест маючага адбыцца рэферэндуму, падмяніць пытанне аб абстаўцы Вярхоўнага Савета і правядзенні датэрміновых дэмакратычных выбараў пытаннем аб рэферэндуме па асноўных канстытуцыйных пытаннях.

Удзельнікі пасяджэння выказалі згоду ў тым, што цяперашні склад Вярхоўнага Савета не ў стане прыняць сапраўды дэмакратычную Канстытуцыю рэспублікі, таксама, як і даць чакаемыя народам адказы на надзённыя пытанні.

Прынята рашэнне аб арганізацыі Грамадзянскага камітэта, галоўнымі мэтамі якога павінны быць кансалідацыя дэмакратычных сіл і процідзеянне пракамуністычнаму ўплыву на насельніцтва, садзеянне хутчэйшаму і справядліваму раздзяржаўліванню ўласнасці, падрыхтоўка да ўсебеларускага рэферэндуму і дэмакратычных выбараў. Утворана арганізацыйная рабочая група па распрацоўцы праектаў Праграмнай Заявы камітэта і яго Статута, якія павінны быць прапанаваны на чарговым пасяджэнні.

***

Традыцыйна, па аўторках збіраюцца на пасяджэнне сябры Магілёўскага рабочага камітэта (страйкама). На чарговым зборы ў цэнтры ўвагі было сацыяльна-эканамічнае становішча на прадпрыемствах Магілёва і перспектывы разгортвання рабочага руху. Вялікую цікавасць выклікала паведамленне У.Шарапава, старшыні камітэта, аб сваім удзеле ў нечарговым Сойме БНФ, які сярод іншых абмяркоўваў пытанне аб адносінах да прафсаюзаў.

Як вядома, прэтэнзіі на цесныя ўзаемаадносіны з рабочым, у прыватнасці, з прафсаюзным, рухам і нават на кіраўніцтва ім выказваюць многія палітычныя сілы. Асаблівай настойлівасцю (праўда, пакуль што без бачнага поспеху) вызначаюцца камуністы, якія ў сваіх заявах пастаянна падкрэсліваюць аб прыярытэтнасці для іх абароны інтарэсаў «простых людзей», «людей наемнага труда», «трудящихся» і г.д.

Есць звесткі, што ў сваіх пошуках масавай сацыяльнай базы ў прадбачанні будучых палітычных падзей, кіраўніцтва Беларускай Сацыял-дэмакратычнай грамады прыняло рашэнне заключыць пагадненне з Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі (старшыня У.Ганчарык) аб сумесных дзеяннях.

Прысутныя з ухваленнем прынялі інфармацыю аб пазіцыі Сойму БНФ, які рашуча адхіліў магчымасць супрацоўніцтва са «школай камунізму», яго імкненне ўсімі сродкамі мацаваць адносіны з незалежнымі аб'яднаннямі прафсаюзаў.

Характар спрэчак, выказванняў на пасяджэнні яшчэ раз паказаў наяўнасць у рабочых лідэраў уласнага погляду на сацыяльна-эканамічнае і палітычнае становішча. Выказанае ўдзельнікамі абмеркавання глыбокае веданне надзённых праблем рабочых, іх сапраўдных інтарэсаў і настрояў сведчыць аб тым, што ўсім патэнцыяльным саюзнікам рабочага руху трэба пазбавіцца ад ўяўленняў аб палітычнай недасведчанасці рабочых, аб неабходнасці іх «ідэйнай адукацыі», больш улічваць у сваёй дзейнасці іх сацыяльныя і эканамічныя запатрабаванні. У працілеглым выпадку немагчыма разлічваць на эфектыўнасць сумесных дзеянняў.

Сябры рабочага камітэта абмяняліся думкамі аб становішчы з парушэннямі правоў працоўных на асобных прадпрыемствах, прынялі рашэнне аб'яднаць высілкі для іх абароны.

***

Чарговая сустрэча ў Дэмакратычным клубе, на якую сабраліся дэпутаты гарадскога Савета Магілёва, пачалася з рада пытанняў удзельнікаў да С. Габрусева. Старшыня Савета, як заўсёды, быў на вышыні і змог задаволіць цікаўнасць прысутных наконт набалелых пытанняў аб рабоце прэзідіума Савета, падрыхтоўкі сесіі, праблем будаўніцтва жылля і аб'ектаў культуры, ачысных збудаванняў. Адначасова выявілася, што не ўсе дэпутаты забылі аб сваіх перадвыбарных абяцаннях выбаршчыкам.

Пераважная большасць абмеркаваных пытанняў датычылася работы будучай сесіі гарсавета, і, зразумела, не абышлося без чарговай спробы падняць праблему ліквідацыі раённага дзялення ў Магілёве. У прыватнасці, было прапанавана вынесці гэта пытанне на гарадскі рэферэндум. Дэпутаты дамовіліся аб магчымых варыянтах тактыкі паводзін у час работы сесіі.

З цікавасцю была выслухана інфармацыя В. Васількова і У. Шанцава аб удзеле ў другой канферэнцыі дэпутатаў мясцовых Саветаў па праблемах мясцовага самакіравання, якая адбылася ў Мінску напярэдадні.

### На прэс-канферэнцыі ў УУС аблвыканкама
## ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

*15 кастрычніка начальнік УУС Магілёўскага аблвыканкама генерал Б.В.Алданаў правёў прэс-канферэнцыю для журналістаў вобласці. Прагучалі наступныя лічбы.*

*У вобласці адбываецца 34 злачынствы ў дзень, з іх звыш паловы — кражы. 9 месяцаў гэтага года далі нам 9312 злачынстваў. Іх раскрываемасць састаўляе 80 працэнтаў. За 9 месяцаў адбылося 57 забойств, 4 з іх нераскрыты.*

*За 1991 г. і 9 месяцаў 1992 г. было зафіксавана больш 1,5 тыс. супраціўленняў работнікам міліцыі. У 1992 годзе супраць праваparушальнікаў прымянялі зброю каля 100 разоў. На аднаго аператыўнага работніка УУС Магілёўскай вобласці цяпер прыходзіцца каля 40 крымінальных злачынных спраў.*

*Адной з прычын існуючых недахопаў ў рабоце міліцыі генерал Алданаў назваў цяжкую матэрыяльна-тэхнічную забяспечанасць міліцыі. Кожны трэці міліцыянер мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. 26 следчых не маюць вышэйшай юрыдычнай адукацыі. Магілёўскай вобласці неабходны дадаткова 200 следчых і 12000 міліцыянераў.*

**АЯКС.**

## ХТО ЁСЦЬ ХТО?

*СТАРАЖЫТНЫЯ людзі казалі: «Скажы, дзе ты працуеш, і я скажу, хто ты». Канешне, прафесія накладвае свой адбітак на светапогляд і характар. І, зразумела, дзяржаўная асоба (г.зн. дэпутат) у першую чаргу будзе абараняць свае сацыяльна-прафесійныя інтарэсы. Я звярнуўся да спецыялістаў Магілёўскага гарсавета і атрымаў вычарпальную інфармацыю пра род заняткаў 146 гарадскіх дэпутатаў (даныя прыведзены на 1.10.92).*

*Найбольшая група дэпутатаў (51 чалавек) занята на будаўніцтве і вытворчасці. Сярод іх выдзяляецца гаспадарчая наменклатура: дырэктары фабрык, заводаў, упраўленняў — каля 11 чалавек. Адносна невялікае (11 чалавек) і сярэдняе звяно вытворчага кіраўніцтва — 12 чалавек. Гэта — ў асноўным начальнікі цэхаў, аддзелаў, будаўнічых упраўленняў, канструктарскіх бюро. 5 дэпутатаў — інжынераў, 6 — брыгадзіры і майстры. І толькі трэцяя частка (17 чалавек) занятых у вытворчасці — простыя рабочыя.*

*У кааператывах, МП, акцыянерных таварыствах і г.д., адным словам, у камерцыі занята каля 17 дэпутатаў. З іх каля 10 — дырэктары новых камерцыйных структур.*

*На трэцім месцы — савецкія работнікі (каля 14 чалавек), г. зн. працуючыя ў гарвыканкамах, райвыканкамах і г.д. З іх 6 дэпутатаў — прадстаўляюць раённае звяно, а 8 — гарадское. Старшыня Магілёўскага гарадскога выканкама, 2 старшыні раённых РВК — таксама дэпутаты.*

*Адносна вялікая (13 дэпутатаў) група медыкаў, з іх можна выдзеліць 6 галоўных дактароў. У сферы адукацыі занята 12 дэпутатаў, з іх васьмёра з'яўляюцца дырэктарамі навучальных устаноў.*

*Адносная невялікая колькасць дэпутатаў, занятых у органах міністэрства ўнутраных спраў (5), юрыстаў (3), афіцэраў (3). У сферы культуры заняты трое дэпутатаў, дырэктары культурных устаноў. Работнікамі ВНУ і НДІ з'яўляюцца чатыры дэпутаты. 7 чалавек працуюць у сферы бытавога абслугоўвання, прычым 4 з іх знаходзяцца на кіруючых пасадах.*

*Астатнія прафесіі прадстаўлены ў Магілёўскім гарсавеце адным ці двума дэпутацкімі мандатамі (журналіст, дырэктар магазіна, старшыня спецсаўгаса, старшыня прафкама, дырэктар «камерцыя-банк», старшыня палітычнай арганізацыі, сакратар к/к СМБ, старшыня абласнога Чырвонага крыжа, намеснік міністра), 1 — студэнт, двое беспрацоўных .*

*Пэўна, як і ў іншых месцах, у Магілёўскім гарсавеце праслежваецца тыповая тэндэнцыя эвалюцыі функцыянераў КПБ у камерцыйнай структуры. Так, 5 былых адказных партработнікаў-дэпутатаў працуюць на кіруючых пасадах у МП. Таксама высвятляецца, што з 146 гарадскіх дэпутатаў каля 2/3 знаходзяцца на кіруючых пасадах featuring рознага ўзроўню, а непасрэдна занятых фізічнай працай налічваецца 28 дэпутатаў.*

*З 146 дэпутатаў большасць беларусаў, 13 украінцаў і 33 рускіх.*

**Падрыхтаваў А.СЕРДЗЮКОЎ, таксама дэпутат.**

### АБ'ЯВА

*Магілёўскі Хрысціянскі Цэнтр запрашае Вас наведаць Свята Ісуса Хрыста, якое будзе праходзіць кожную нядзелю з 18 гадзін у Палацы культуры і тэхнікі аб'яднання «Хімвалакно».*

*У праграме: спевы і хрысціянская музыка, вывучэнне Бібліі і малітва за вылячэнне хворых.*

**Уваход свабодны.**

# ЛІДЭРЫ АПАЗІЦЫІ

Зянон ПАЗЬНЯК

# Стварэньне нацыянальнага войска і дзяржаўная незалежнасьць

**Даклад, прачытаны на соймавай канферэнцыі БНФ па вайсковых пытаннях 25.09.1992 г.**



СТВАРЭНЬНЕ нацыянальнага войска і наяўнасць нацыянальных узброеных сілаў зьяўляецца адным з асноўных крытэрыяў суверэнітэту. Гэта абавязковая ўмова. Існуюць, праўда, і выключэньні. Але гэта характэрна толькі для карлікавых дзяржаў з вельмі маленькім насельніцтвам, суверэнітэт якіх ёсць вынік сьпецыфічных гістарычных і геаграфічных абставінаў. Для Беларусі, улічваючы яе геапалітычнае становішча і імкненьне да нейтральнасьці, наяўнасьць моцнага войска, здольнага выконваць усе сучасныя функцыі актыўнай абароны тэрыторыі, зьяўляецца адным з важнейшых чыньнікаў суверэнітэту і нейтралітэту. Гарантаваць рэальны суверэнітэт і нейтралітэт павінна таксама моцнае войска, што пацьвярджаецца вопытам нейтральных краінаў (Швецыя, Швейцарыя і інш.).

Павінен адзначыць, што ідэя нейтралітэту ўжо ў пэўнай ступені састарэла ў агульнаеўрапейскім сэнсе пасьля распаду Варшаўскага дагавору. Але для Беларусі яна цяпер надзвычай актуальная, каб забясьпечыць свой суверэнітэт, не даць уцягнуць сябе ў блокавыя і геапалітычныя гульні іншых дзяржаў, дакладней пэўных палітычных сілаў гэтых дзяржаваў. Не магу сказаць, каб існуючы ўрад Беларусі добра ўсьведамляў гэта. Маскоўскія пагадненні 20 ліпеня паміж урадамі Беларусі і Расейскай Федэрацыі паказалі, што беларуская камуністычная наменклатура гатовая прадаць і нейтралітэт і нацыянальныя інтарэсы.

Улічваючы фактар кампрадорскай ненацыянальнай пазіцыі значнай часткі цяперашняй дзяржаўнай наменклатуры, успомнім кароткую гісторыю стварэньня беларускага войска. Яшчэ ў верасні 1991 года Вярхоўны Савет выявіў поўнае неразуменьне ўвогуле неабходнасьці стварэньня нацыянальных узброеных сілаў, не даючы ніякіх рэкамендацыяў адначасна, што рабіць савецкай вайармііяй на Беларусі. Гэта вынік невысокага палітычнага ўзроўню і дэфармаванай, неразьвітай нацыянальнай сьвядомасьці «народных абраньнікаў». Тады, як выявілася, нават у савецкай арміі лепш разумелі пэрспектыву стварэньня беларускага войска. Спатрэбілася шмат марна страчанага часу, пакуль абставіны, што разьвіваліся вакол Беларусі, не прымусілі Вярхоўны Савет прызнаваць патрабаваньні і прапановы Народнага Фронту і Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў, якое акурат разгарнула дзейнасць у гэты час.

Асноўны клопат бальшыні ваеннаслужачых савецкай арміі на Беларусі ў гэты «інкубацыйны» перыяд матэрыяльны інтарэс — «што мне дадуць, калі я буду ў беларускім войску». Прайшоў час і ваенная наменклатура, якая не дапускала і думкі пра беларускае войска, усьвядоміла, што выхаду няма — беларускае войска будзе створана. Вось тут і пачаўся генеральскі ажыятаж. Барацьба за крэслы, за вакансіі, за пасады, за месца ў Міністэрстве абароны і ў вайсковых структурах пры падтрымцы ўраду закончылася поўнай і ўсеагульнай перамогай савецкай вайсковай наменклатуры. Усе ўзброеныя сілы падпарадкавалі Саўміну, а ў Саўміне стварылі і ўмацавалі кадрамі былых партначальнікаў і палітрукоў Упраўленьне грамадзкай бясьпекі і абароны, якое і пачало кіраваць Міністэрствам абароны, вызначаць кадравую і іншую палітыку ў войску.

Палітычныя задачы, якія ажыцьцяўляе ў войску праз структуры Саўміна посткамуністычная наменклатура, выкліканы і акрэсьлены, перш за ўсё, надыходзячым рэферэндумам. Наменклатурная бюракратыя зараз гатова паставіць на карту ўсё, толькі б затрымацца за сабой уладу ў дзяржаве. Праводзіцца тыпова камуністычная палітыка. Ураду патрэбна войска, што было б аднародным і паслухмяным на выпадак грубых неканстытуцыйных дзеяньняў з боку Саўміна ў выніку посьпеху рэферэндуму і паражэньня наменклатуры на выбарах. Менавіта гэтымі матывамі выклікана кампанія звальненьня ў запас афіцэраў-беларусаў, паслухмяна падтрыманая міністэрствам абароны, і кампанія шальмавання Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў.

Як вядома, армейская палітыка КПСС, як і эканамічная ў эканоміцы, была падпарадкаваная не толькі задачам абароны і агрэсіі, але, перш за ўсё, задачам стварэньня і ўмацаваньня імперыі, імперскай палітыцы русіфікацыі. Беларускія хлопцы, якія ішлі служыць у савецкую армію нармальнымі людзьмі, вярталіся адтуль у большасці ўжо русіфікаванымі, з расейскай мовай і абыякавымі адносінамі да ўсяго роднага, часта з пачварнымі чужымі ўяўленнямі пра мараль і дачыненьні паміж людзьмі. Не раз прыходзілася назіраць, як тое добрае, што было закладзена ў юнака сям'ёй, бацькамі, нават школай, перакрэсьлівалася 2-3 гадамі службы ў савецкай арміі. Камуністы, разбураючы нацыі і этнасы, акрамя таго, што атручвалі інтэлект ідэалогіяй інтэрнацыяналізму, сьпецыяльна прадугледжвалі, каб салдаты і афіцэры-беларусы не служылі на Беларусі. У выніку на сёньняшні дзень у Беларускім войску працуе толькі 18 працэнтаў (прытым гэтая лічба лічыцца завышанай) афіцэраў-беларусаў (каля 5 тысячаў чалавек) у той час, калі амаль 40 тысячаў афіцэраў-беларусаў апынулася за межамі радзімы і практычна не мае магчымасьці вярнуцца на Беларусь з-за неспрыяльнай палітыкі, якую праводзіць у дачыненні да іхняга вяртаньня ўрад і ваеннае ведамства Беларусі, якія дзейнічаюць тут у рэчышчы расейскай палітыкі.

Вось гэты чыньнік, скрытай палітыкі чужой дзяржавы, сувязь яе з кампрадорскімі ўрадавымі структурамі Беларусі, іграе тут, на мой погляд, вялікую ролю. Гісторыя пацьвердзіла, што, каб захаваць і ўмацаваць сваю ўладу, камуністычная наменклатура можа ахвяраваць жыцьцём мільёнаў людзей, культурай, нацыянальным дабрабытам, дзяржаўным суверэнітэтам, толькі б забясьпечыць сваё кіраваньне і свой дабрабыт. Беларуская камуністычная наменклатура не спадзяецца на свае сілы. Яна па традыцыі прадажная, таму схільная, каб захаваць уладу любымі сродкамі, абаперціся на чужую сілу і чужую палітыку. На прасторах Беларусі цяпер вольна дзейнічаюць разьведкі ўсяго сьвету, нават новастворапых дзяржаў. Прыярытэтам карыстаецца расейскае КДБ і расейская разьведка, якая тут поўнасьцю валодае становішчам, а нядаўна нават заключыла фармальнае пагадненьне аб супрацоўніцтве «ў вобласьці зьнешняй разьведкі» з Камітэтам дзяржбясьпекі Беларусі.

Падрыўная дзейнасць расейскай разьведкі стала ўжо адчувацца не толькі ў войску, але і ў працэсах нашага грамадства, асабліва ў прапагандзе. Не сумняваюся, што хутка гэтая падрыўная «праца» чужой разьведкі стане прадметам абмеркаваньня ў палітычных колах і нават прывядзе да адпаведных захадаў.

ПРАВЯДЗЕНЬНЕ сьвята беларускай вайсковай славы і грамадзкае прыняцьце прысягі 8-га верасьня гэтага года нанесла магутны ўдар па планах Ураду і чужой палітыкі на Беларусі адносна войска. Рэакцыя на сьвята часткі кіруючых генералаў і залежных ад іх асобаў была нервовай, істэрычнай і вельмі паказальнай. Адразу ўсё выявілася — і антынацыянальная, антыдэмакратычная скіраванасьць кіруючых вайсковых структураў у Міністэрстве абароны і ў Саўміне, і махровы антыдэмакратызм старой вайсковай наменклатуры, яе нянавісьць да незалежнасьці Беларусі, да беларускага адраджэнскага руху, да беларускай гісторыі, да ўсяго, што беларускае. Пасыпаліся розныя бязглуздыя звароты і прэтэнцыёзныя адкрытыя лісты, замешаныя, як звычайна, на нянавісьці і хлусьні. Справа дайшла нават да камізму, калі былыя ваенныя палітрукі з сур'ёзным выглядам пачалі пісаць артыкулы пра беларускую гісторыю, бяздарна перапісваючы старыя камуністычныя фальсіфікаты. А Калегія Міністэрства абароны прыняла афіцыйны зварот, дзе назвала ўрачыстае грамадзкае прыняцьце зацьверджанай Вярхоўным Саветам прысягі на вернасьць дзяржаве і народу Беларусі «антыдзяржаўнай акцыяй». (Не ведаю, ці сьведчыць гэта пра вялікую працу інталекту тых, хто такое склаў, тут, хутчэй, выяўленьне неадпаведнасьці займаемым пасадам).

Калі падсумаваць і прааналізаваць тое, што толькі за верасень зроблена і напісана вайсковай наменклатурай, прыходзіш да высновы, што гэтым людзям абслютна няма чаго рабіць у беларускім войску, ні ў цяперашнім, ні ў будучым. Войска — гэта асобая дзяржаўная структура. Вайсковы афіцэр не можа працаваць у войску і ненавідзець незалежнасьць дзяржавы, якой служыць, нацыянальную культуру, і мову народа, што гэтае войска ўтрымлівае. Гэта не толькі не маральна, гэта алагічна. Не можа быць войска, дзе афіцэры без прысягі. Тым часам, менавіта такое войска сьвядома створана цяпер на Беларусі.

Другое, што відаць з аналізу наменклатурнай істэрыкі, гэта сэнс дэбеларусізацыі афіцэрскага корпуса беларускага войска. Чыноўнікі Саўміна і кіруючыя частка былых савецкіх генералаў на Беларусі хацелі стварыць за кошт Беларусі чужое войска, няздольнае абараняць пры неабходнасьці суверэнітэт дзяржавы пры пагрозе з усходу. Падрыхтоўваліся падставы для ціхай акупацыі Беларусі, якая ўжо пачалася рабіцца рукамі беларускага Савету Міністраў і захадамі расейскай дыпламатыі.

Гэтыя дзеянні суадносяцца з зьнешнепалітычнымі захадамі Ураду. Згодна дакументаў, падпісаных 20 ліпеня ў Маскве, усе стратэгічныя войскі на Беларусі пераходзяць пад юрысдыкцыю Расейскай Федэрацыі не на 2 гады, як папярэдне дамоўлена было ў пагадненьнях СНД, а на 7 гадоў. Пры гэтым ніякай арэнднай платы за выкарыстаньне тэрыторыі, зямлі, палігонаў, аэрадромаў, за псаваньне прыроды і т.п. Беларусь не будзе атрымліваць. Наадварот, сацыяльна-бытавое ўтрыманьне расейскага войска павінна будзе забясьпечваць наша дзяржава. Ніякіх пошлінаў за любыя вайсковыя транспартныя перавозкі Расея Беларусі выплачваць не будзе. Адпаведна Беларусь не можа ажыцьцяўляць кантроль за перамяшчэньнем расейскіх войскаў на беларускай тэрыторыі. Тым часам Расея згодна пагадненьняў павінна мець поўны кантроль над разьвіцьцём і прадукцыяй беларускіх абаронных прадпрыемстваў аж да атрыманьня праектнай і тэхнічнай дакументацыі. І ўжо зусім поўным абсурдам гучыць палажэньне аб тым, што грамадзяне Беларусі будуць праходзіць абавязковую вайсковую службу ў расейскім войску. Тое, што гэта нечуванае глупства — яшчэ поўбяды. Цяжкія вынікі такога безгалоўя, бо згодна закона аб грамадзянстве людзі, што паступаюць на службу ў чужое войска, аўтаматычна трацяць грамадзянства Беларусі. Інакш як зьдзекам над нашай дзяржавай, над нашымі законамі і над нашай нацыянальнай годнасьцю гэтыя пагадненьні не назавеш. Аднак, калі разглядаць іх у рэчышчы эгаістычнай палітыкі камуністычнай наменклатуры, становіцца зразумелым, чаму так цынічна прадаюцца нацыянальныя інтарэсы Беларусі.

Маскоўскія пагадненьні 20 ліпеня, дзе былі ў чарговы раз праігнараваныя ранейшыя пагадненьні па СНД, канчаткова паказалі, што СНД ужо вычарпала свае магчымасьці і ператварылася ў зручную шырму і падставу для імперскай палітыкі Расеі і палітычнага нацiску на іншыя дзяржавы Садружнасьці. Беларусі больш няма неабходнасьці заставацца ў СНД. Далейшае знаходжаньне ў гэтым фармальным утварэньні пагражае стратай ужо набытай незалежнасьці, не спрыяе вяртаньню ў цывілізаваную Эўропу. Выхад з СНД і поўны вывад расейскага войскага з Беларусі да 1994 года — гэта патрэбы, якія становяцца на палітычны парадак дня.

Аднак важнейшай задачай застаецца стварэньне новага беларускага войска на аснове старой савецкай арміі. Фармальна для вайсковага будаўніцтва ўжо створаны першыя элементарныя магчымасьці. Аднак стары наменклатурна-вайсковы багаж, старыя камуністычныя хваробы і балячкі старога войска плюс неспрыяльныя дзеяньні наменклатурнага ўраду, што змыкаюцца з палітыкай чужой дзяржавы, зводзяць на нішто ўсе гэтыя фармальныя ўмовы.

Акрамя таго, карупцыя і злачынства, што панавалі ў савецкай арміі, цяпер шырока распаўсюдзіліся і дасягнулі незвычайных памераў. У сувязі з гэтым вельмі нізка ўпала мараль, дысцыпліна, годнасьць афіцэра. Адбылося зьмяшэнне маральных і немаральных крытэрыяў, паняцьцяў. Нават лепшыя людзі здольныя дзеля добрых мэтаў карыстацца неганаровымі сродкамі, блытаючымі маральныя памкненьні з адказнасьцю і маральнымі абавязкамі.

Аднак не наліваюць у старыя мяхі віно маладое. Змагацца з карупцыяй трэба будзе не толькі законам, выкананьнем закона, але і кадравай палітыкай і сістэмай выхаваньня і стварэньнем новых структураў, іншай сістэмы кіраўніцтва і падпарадкаваньня. Старая савецкая армія, што раптам цяпер махрова разбуяла на Беларусі, павінна быць паступова зьліквідаваная, адначасна са стварэньнем на яе месцы і на яе аснове новага беларускага войска, сфармаванага па грамадзянскіх крытэрыях, без нацыянальнай розьні і камуністычна-расейскага шавінізму, вернага і адданага сваёй дзяржаве і народу, якому яно прыносіць прысягу, шануе яго культуру, мову, народныя здабыткі, не пагараджае яго працай.

У МЯНЕ не выклікае ніякага сумненьня, што дзяржава не павінна вырашаць сацыяльныя праблемы тых ваеннаслужачых і тых наменклатурных генералаў, што, будучы ў беларускіх узброеных сілах, не прынялі вайсковую прысягу на вернасьць Беларусі, тых вайсковых асобаў, што зьневажаюць нашу дзяржаву, наш сьцяг і герб, наш народ, яго мову, гістарычныя і культурныя каштоўнасьці. Такія людзі выпадковыя ў войску. Гэтыя палажэньні павінны быць адлюстраваны ў законе аб сацыяльнай абароне вайскоўцаў, які трэба ўводзіць у дзеяньне толькі пасьля прыняцьця прысягі. Адданасьць дзяржаве, народу, лаяльнасьць да яго мовы і культуры павінна быць адлюстравана як абавязковае патрабаваньне ў законе аб войску.

Мяркую, што асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на вайсковых сьпецыялістаў. Пры скарачэньні войска, яны павінны карыстацца прыярытэтам захаваньня на пасадах.

Старыя камуністычныя палітрукі не павінны весьці палітычна-выхаваўчую працу ў войску, не ведаючы беларускай мовы, не прайшоўшы сьпецыяльных адукацыйных курсаў перападрыхтоўкі і штогодняй атэстацыйнай камісіі на прфесійную годнасьць.

Аркамя таго, некаторым службам і абслузе ў войску трэба надаць грамадзянскі статус. Тут будзе і эканомія сродкаў і захаваньне працоўных месцаў для вайскоўцаў.

Лічу, што Міністэрства абароны трэба перападпарадкаваць Вярхоўнаму Савету, каб пазьбегнуць канцэнтрацыі ўсіх сродкаў улады ў руках аднаго Саўміна. Упраўленьне грамадзкай бясьпекі і абароны Савета Міністраў павінна быць зьліквідаванае з-за непатрэбнасьці. Гэта лішняя структура. Пытаньнямі бясьпекі і абароны абавязаны займацца адпаведныя міністэрствы.

Вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на ваенныя вучэльні і на нармальнае гуманітарна-патрыятычнае выхаваньне вайсковай афіцэрскай зьмены. Не павінна беларуская вайсковая вучэльня называецца «сувораўскай». Гэта зьняважліва і ганебна. Вучэльню трэба рэфармаваць у вайсковы калегіум імя Вялікага гетмана Канстанціна Астрожскага і спрыяць таму, каб адтуль выходзілі сапраўдныя сыны Бацькаўшчыны з цьвёрдымі паняцьцямі пра беларускі афіцэрскі гонар і нацыянальную годнасць.

Ствараючы нацыянальнае войска, трэба памятаць не толькі пра забеспячэньне гарантый нашага дзяржаўнага суверэнітэту, але і пра будучыню нацыі, пра яе духоўнае здароўе, бо праз войска праходзіць большасьць мужчынаў нашай дзяржавы, прытым у такім узросьце, калі фармуюцца жыццёвыя схільнасьці і ідэалы. Старая савецкая армія дзейнічала як малатарня, ламаючы душы маладых і ў цэлым псавала маральнае і інтэлектуальнае здароўе грамадства. Беларускае войска не можа быць такім. Яно павінна даць людзям большы, лепшы выбар, шырэйшыя магчымасьці для асобы, без фальшы і нянавісьці. Ёсьць краіны, дзе гэта дасягнута, і я упэўнены, так будзе і ў нас. Але усіх нас, усё грамадства чакае дзеля гэтага вялікая цяжкая і мужная праца. Яна ажыцьцёвіцца, бо ўжо ёсьць людзі, што прысягнулі Беларусі сэрцам і здольныя пастаяць за радзіму і за сябе.

**Фота А.ЛІЦІНА.**






# Краязнаўчыя аркушы

№ 6 кастрычнік

## Факты—рэч упартая

З ЗАДАВАЛЬНЕННЕМ пачаў чытаць артыкул Б.Сідарэнкі аб гісторыі Магілёўскага паўстання 1661 г. Цікава было выслухаць аўтарскую інтэрпрэтацыю тых далёкіх падзей, сістэму доказаў і аргументацыю. Тым больш, што пры пералічэнні даследчыкаў дадзенага пытання паблажліва было згадана, і маё імя, так што ў недасведчанага чалавека маё пераасэнсаванне падзей здавалася дылетанцкай гульнёй.

Але...Адно маленькае «але». Пры чытанні першых частак работы Б. Сідарэнкі ў мяне склалася ўражанне, што шаноўны калега не валодае ўсёй крыніцаведчай базай па дадзенаму пытанню. Абсалютна ігнаруюцца дакументы, змешчаныя ў 14 томе «Актов Юго-Западной России» (1989), а таксама матэрыялы цэнтральнага гістарычнага архіва ў Менску.

Адсюль і вынікаюць тыя прыкрыя памылкі і недакладнасці, якімі «грашыць» тэкст Б.Сідарэнкі.

Так, пры апісанні перахода шляхціча К.Паклонскага на бок маскоўскага цара краязнаўца Сідарэнка сцвярджае, што «цар... надаў Паклонскаму чын палкоўніка, аднак узброены атрад не даверыў, а даручыў яму сфарміраваць уласны полк з мясцовага насельніцтва і даў першы загад — дабіцца здачы Магілёва *(ад рэд. — гл. № 18)*. І далей: «да жніўня таго ж года Паклонскі стварыў узброены атрад колькасцю да 6 тысяч чалавек, т. зв. Чавускі (або Беларускі) полк са шляхты, гараджан і сялян Магілёўскага, Мсціслаўскага і Чавускага паветаў. У сярэдзіне жніўня 1654 г. Чавускі полк падышоў да Магілёва. 24 жніўня горад здаўся «на імя царскае» *(ад рэд.: гл. № 18)*. Даруйце мне за гэтыя доўгія цытаты, але ж у іх менавіта цэлы шэраг памылковых сцвярджэнняў і недакладнасцей, выкліканых слабым веданнем аўтарам дакументальных крыніц. К.Паклонскі малюецца гэткім партызанам, які збірае войска з незадаволеных беларусаў, а ад цара ніякай узброенай сілы не атрымлівае. Але ж як тады каменціраваць наступны дакумент царскай канцылярыі: «Поклонский был у тебя, государя, и отпущен в Могилев с твоими государевыми ратными многими людьми». (АЮЗР. т. X1V).

Другі не менш цікавы дакумент, а менавіта адна з жнівеньскіх адпісак К.Паклонскага і м.Ваейкава таксама абвяргаюць гэтую выснову «До августа ж, государь в 7 день присылали мы, холопи твои, московских стрельцов 5 человек, да астраханских стрельцов двух человек, да татар 10 человек, да чаусовцев 50 человек». Цяжка назваць маскоўскіх, астраханскіх стральцоў і татар беларусамі. Як мы бачым, усё ж такі Паклонскі і Ваейкаў мелі значны атрад маскоўскіх ратных людзей.

Абсалютна нічога не сказана аб сістэме і прынцыпах камплектавання Чавускага палка Паклонскага. Першае папаўненне атрада, за кошт чавусаўцаў, адбылося на пачатку жніўня 1654 г. Тады Паклонскі «переписал и собрал войска пеших 800 человек». Зразумела, ніхто не ўлічваў жадання ўліцца ў вайсковы аддзел да Паклонскага. Ён сам пісаў, што не вельмі спадзяецца на добраахвотнікаў. І менавіта таму сялян і іншых Паклонскі проста прымушаў ісці ў сваё «войска».

І калі б не дапамога ўкраінскіх казакаў Васіля Залатарэнкі, спешна рушыўшых з-пад Гомеля, то невядома хто быў бы пераможцай пад Чавусамі, куды рушыў шляхецкі атрад з Магілёва.

Сідарэнка вельмі сціпла паказаў момант здачы Магілёва. У чытача можа скласца ўражанне, што горад без усялякіх супраціўленняў адчыніў вароты. Яшчэ раз паўтару палажэнні майго артыкула па гэтаму пытанню.

Магілёўцы цягнулі час, спрабавалі ўвесці ў зман ворага. 1-га жніўня да Ваейкава, які знаходзіўся за паўвярсты ад горада, была выслана дэпутацыя. Яна абяцала здаць горад, але праз тры дні. Справа ў тым, што на дапамогу Ваейкаву па загаду Аляксея Міхайлавіча павінна было падысці войска на чале з князем Куракіным, між тым людзі, пасланыя пад Дуброўна, Оршу, не знайшлі ані князя, яні дваран, ані стральцоў. Сяляне, сіламі загнаныя ў казацкія аддзелы, пачалі ўцякаць з царскага войска. «А которые государь, Могилевского уезда крестьяне и казаки собрались и полковнику тысяч с 6 и слышав про то, что твоих государь ратных людей не идут, многие разбежались, а иные пошли в Могилев и про то все в Могилеве те беженцы сказали».

А што ж магілёўцы? «Те, государь, могилевцы проведали..., что ратных людей нет и с чем присылали, в том всем солгали и хотят с нами битца, и из Тор хотят итить на нас с пушками и туры и щиты готовят». Атрымаўшы такія звесткі, Аляксей Міхайлавіч паслаў на дапамогу Ваейкаву і Паклонскаму вайсковыя аддзелы на чале з Пятром Шарамецьевым. У выніку гэтага гараджане вымушаны былі здацца на імя царскае. Такім чынам, галоўнай сілай, якая прымусіла горад здацца, былі ўсё ж такі рэгулярныя вайсковыя аддзелы маскавітаў, а не Чавускі полк, 6 тысяч з якога пры першым зручным моманце разбегліся хто куды.

На заканчэнне мне б хацелася па-сяброўску параіць аўтару больш уважліва адносіцца да дакументальных сведчанняў, спрабаваць аналізаваць увесь комплекс гістарычных крыніц, а не толькі збіраць тое, што ёсць на паверхні.

**Ігар МАРЗАЛЮК,**
**археолаг.**

## Славутыя традыцыі

В 1992 г. мы адзначылі 415-ю гадавіну атрымання г. Магілёвам граматы на поўнае Магдэбургскае права, што было найвялікшай падзеяй для ягоных жыхароў. Вывучэнне Магдэбургскага права карысна, як з навуковага пункту гледжання, так і ў якасці лепшага прыкладу мясцовага самакіравання.

Магдэбургскае права на Беларусі было запазычана ў немцаў і абапіралася на старажытны славянскі і вечавы звычай. З'яўленне Магдэбургскага права ў заходніх гарадах дыктавалася логікай барацьбы гараджан з феадаламі і пашырэннем эканамічных аперацый гараджан. Адны гарады мелі права абмежаваных муніцыпальных свабод пад кантролем каралеўскага чыноўніка, права суда і гандлёвых збораў, вольнасць гандлю і г.д. Другія, найбольш моцныя гарады, карысталіся правам гарадскога самакіравання, заключалі мір і саюзы, мелі т.зв. вялікае Магдэбургскае права. Такое права давала гарадам пэўную незалежнасць ад каралеўскай адміністрацыі і шляхты, дазваляла праводзіць незалежную эканамічную і сацыяльную палітыку.

Гарады ўсходняй часткі Рэчы Паспалітай атрымлівалі Магдэбургскае права некалькі пазней чым польскія. Разгледзем эвалюцыю гэтага права на прыкладзе Магілёва.

20 лютага 1561 г. горад атрымаў т. зв. малое Магдэбургскае права. Міласцю караля і вялікага князя Жыгомонта-Аўгуста была жалавана грамата з дазволам варыць піва і мёд у пэўны час, лавіць у рацэ Днепр рыбу і другое з узносам каралю назначанай платы. Так, як і любы другі горад, за атрыманыя правы Магілёў павінен быў уплочваць пэўныя падаткі.

Прайшоў нейкі час і г. Магілёў дабіваецца права самакіравання, г.зн. поўнага Магдэбургскага права. Яго атрыманне азначала магчымасць ажыццяўлення наступных мер. Па-першае, вызваленне гараджан ад розных падаткаў, якія яны плацілі як і сяляне; па-другое, прадастаўленне гарадам розных прыбытковых артыкулаў для іх «справы», г.зн. для задавальнення іх патрэб; па-трэцяе, вызваленне ад баярскага права і арганізацыі гарадскога самакіравання. У прыватнасці, права абрання бургамістраў, райцаў і лаўнікаў.

У першакрыніцах канстатуецца пажалаванне г. Магілёву герба, — высокую мураваную вежу ў блакітным полі са словамі вакол герба «печать места могилевского».

Улада каралеўскіх стараст падменьвалася эгідай войтаў, якія прызначаліся каралём пажыццёва і дасярэдзіны XVII стагоддзя не жылі ў Магілёве, свае функцыі яны дэлегавалі лентвойтам (намеснікам войтаў).

У дакументах упамінаюцца першыя магілёўскія войты, пан Славенскі, Ярош Валовіч. Менавіта пры падтрымцы апошняга было падаўлена паўстанне 1610 года пад кіраўніцтвам мяшчан Івана Харновіча, Нікіты Мілковіча, Ісая Шчаснага.

Рада складалася з войта, лентвойта, двух бурмістраў, чатырох радцаў, (райцаў), 12 паспалітых і 4 мафараў. Усе рашэнні рады былі абавязковымі для жыхароў горада і маглі быць абскарджаны толькі каралю.

У канцы XVI ст. Магілёўскае Магдэбургскае права эвалюцыяніравала ў бок далейшай самастойнасці. Войт з бургамістрамі і радцамі звычайна разбіраў як грамадзянскія, так і крымінальныя справы, напрыклад, аб кражы, мужазабойстве і г.д. Гэта дэмакратызацыя гарадскога жыцця ва ўсходняй частцы Рэчы Паспалітай адбывалася на фоне арыстакратызацыі ў польскіх гарадах. Там шляхта пачынае касаваць правы гарадскога самакіравання. Міжусобная ўнутрыгаспадарская барацьба, спустошальныя войны Рэчы Паспалітай з Расіяй яшчэ больш аслабляюць Магдэбургскае права. У канцы XVII— пачатку XVIII ст. такія працэсы сталі характэрны і для Магілёва, стваралася немагчымая атмасфера для гарадскога самакіравання. Далучэнне Магілёва да Расіі паклала канец існаванню Магдэбургскага права.

У наш цяжкі час мы не забываем пра традыцыі гарадскога самакіравання, хоць эканамічная інтэграцыя зрабіла немагчымым поўную самастойнасць горада. Суверэнізацыя рэспублік, эканамічная сумяціца склала цалкам магчымую сітуацыю для вяртання славутых традыцый. І з'яўленне свабодных эканамічных зон — наглядное таму пацвярджэнне.

**А. СЕРДЗЮКОЎ.**

## Хранограф Магілёва-1992 г.



**(Заканчэнне. Пачатак у №№ 16, 18, 20)**

**50 год назад (1942, красавік)** пачала выхадзіць у акупіраваным Магілёве газета «За Родину» папольнага ««Камітэта» садзейнічання Чырвонай Арміі» (кіраўнік К.Ю.Мэтэ).

**45 год назад (1947)** былі адкрыты прафтэхвучылішчы будаўнікоў № 54 і 57.

**40 год назад (1952)** адкрыты спецыялізаваны дзіцячы санаторый «Магілёў» (вул. Першамайская, 150).

**40 год назад (1952)** на базе завода натуральнага каўчука (дзейнічаў з 1949 г.) заснаваны рэгенератны завод.

**35 год назад (1957)** па загаду кіруючых варвараў была ўзарвана Магілёўская ратуша — самы выдатны помнік грамадзянскага дойлідства Беларусі 17 ст.

**35 год назад (1957)** на базе прамысловай арцелі «Металкамбінат» быў створаны ложкавы завод (кроватный) — з 1981 г. завод металавырабаў.

**30 год назад (1962)** абласны краязнаўчы музей пераехаў у будынак былога акругова суда (1778) на Савецкай плошчы.

**25 год назад (1967)** пачалося ўзвядзенне ліфтабудаўнічага завода. Першую прадукцыю даў у 1969 г.

**25 год назад (1967)**, верасень) упершыню святкаваўся дзень «нараджэння» Магілёва. Сквер, пасаджаны на пр. Пушкіна, атрымаў імя 700-годдзя горада.

**25 год назад (1967)** быў пасаджаны сквер імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка (паміж чыгункай і вул. Якубоўскага). Знішчаны у 70-80г.г. пры пракладцы пуцеправода праз чыгунку).

**20 год назад (1972)** створана аб'яднанне «Магілёўхлебпрам» з 12 хлебазаводаў. З іх чатыры — ў Магілёве.

**20 год назад (1972)** створаны Казіміраўскі доследна-эксперыментальны завод.

**20 год назад (1972)** створана абласное бюро па працаўладкаванні насельніцтва, зараз цэнтр занятасці.

**20 год назад (1972)** у Магілёве была адкрыта турбаза ўсесаюзнага значэння «Днепр» (потым тургасцініца «Любуж»). Існавала да 1990 г.

**20 год назад (1972)** збудавана і адкрыта 13-павярховая гасцініца «Магілёў» на 655 месц. Архітэктары В.Астаповіч, Г.Бенядзіктаў, А.Лукомская).

**20 год назад 1972** быў арганізаваны гарадскі Дом культуры.

**15 год назад (1977)** адкрыты Палац культуры і тэхнікі вытворчага аб'яднання «Хімвалакно» (арх. Я.Смальгоўскі, В.Ладыгіна, В.Астаповіч).

**15 год назад (1977)** створана гарадская станцыя юных тэхнікаў.

**15 год назад (1977**, кастрычнік) каля праспекта Шмідта закладзены т. зв. парк імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка. Паколькі нічога там не вырасла, ў народзе атрымаў мянушку «Рускае поле».

**10 год назад (1982)** на беразе Дняпра на вул. Вялікай Чавускай пабудавана вяслярная база абласнога аддзела народнай асветы.

**10 год назад (1982)** у лесе каля Чавускага шасэ на ўскраіне горада адкрыты мемарыял «Зямлянка» на месцы знаходжання летам 1941 г. штаба Заходняга фронта.

**10 год назад (1982)** створаны завод «Магілёўсельмаш»

**10 год назад (1982)** былі зламаны рэшткі помніка дойлідства 17-18 ст. гандлёвых радоў па вул. Ленінскай, 9.

*Сёння «Ратуша» закончыла публікацыю «Хранографа» Магілёва-1992». Зноў нагадваем нашым чытачам, што 1 гэтыя амаль сто дат — толькі частка юбілейных (і не Вельмі) падзей, якія прыпалі на бягучы год. І толькі тыя, дзе не зусім дакладна вядома, калі яны адбываліся. Іншы раз гэта ўстанавіць і немагчыма, як скажам дакладны дзень заканчэння будаўніцтва храма, выдання старой кнігі ці пачатку работы прадпрыемства, арганізацыі. Зрэшты важна ў першую чаргу не гэта. А там, дзе адметныя памятныя даты дакладна вядомы, мы будзем, зразумела, прытрымлівацца бягучага календара. Як, напрыклад, 275-я гадавіна нараджэння архіепіскапа Магілёўскага і Беларускага Георгія Канінскага, пісьменіка і паэта, філосафа і асветніка, што адзначаецца сёлета 20 лістапада.*

*Наша культурна-асветная газета імкнецца ў першую чаргу асвятляць падзеі мясцовай гісторыі праз якія старажытны Магілёў звязаны з гісторыяй суседніх краін, Еўропы і свету. Вы можаце і самі прапанаваць рэдакцыі пра якіх знакамітых людзей ці адметныя падзеі хацелі б даведацца, а то і самі напісаць.*

*Чакаем вашых водгукаў і прапаноў.*

## ПОМНІКІ ВЕЛІЧЫ І СЛАВЫ



**Сучасны выгляд царквы ў вёсцы Сялец Мсціслаўскага раёна.**

**Помнік дойлідства другой паловы XVIII-га стагодзя.**

**Фота В.БЫСАВА.**




# РАБОЧАЯ ТРЫБУНА

У сённяшнім нумары мы прадастаўляем слова **рабочаму лідэру, старшыні Магілёўскага рабочага камітэта «Незалежнасць» У.В.ШАРАПАВУ.** Гэта першы выпуск старонкі «Рабочая трыбуна» і спадзяёмся не апошні. Уладзімір Васільевіч выказвае свае погляды на жыццё. Можна з ім згаджацца, можнаківаць на недастатковасць аргументаў. Але галоўнае ў яго звароце да працоўных — суровая праўда жыцця, пошук ісціны.

Спадзяёмся, што на нашай старонцы будуць гучаць галасы і другіх рабочых, друкавацца іх злабадзённыя артыкулы.

# Я, ты, мы, они

«Если люди злые объединились и представляют собой силу, то людям добрым нужно сделать только то же самое, это ведь так просто»
**Лев Толстой.**



ДАВАЙТЕ знакомиться. Для начала расскажу о себе. Я — рабочий, с 27-летним стажем. В настоящее время работаю в профсоюзах и городском рабочем комитете. Правды и счастья видел в своей жизни так же мало, как и ты, читатель. И все же надеюсь, что жизнь дана человеку для лучшей доли. Только эта надежда заставляет делать свое дело, сжав зубы.

Со мной мои товарищи. Все те, кто бросил вызов рабству и несправедливости. Вчера они создавали стачкомы от Воркуты до Макеевки, сегодня поддерживают связь, обмениваются информацией между Свободными профсоюзами России, Украины, Белоруссии, рабочими союзами Литвы, Латвии, Эстонии. Мои товарищи в масштабах нашей республики — это независимый профсоюз горняков Солигорска, профсоюз авиадиспетчеров, Конфедерация Труда Беларуси, Свободные профсоюзы.

В разных городах и республиках мы стремимся к созданию организаций, основанных на коллективной защите, солидарности, взаимопомощи.

Номенклатурная пресса, сваливая с больной головы на здоровую, в своих статьях часто изображает нас забастовщиками, разрушающими экономику, хоть, все, что называют достоянием страны — это дело моих и твоих рук.

Демократическое рабочее движение — это вовсе не стихийные выступления за увеличение зарплаты (как иногда его представляют), а организованная сила, имеющая правовую, информационную и материальную базу. Наше отличие от политиков — в минимуме разногласий и единстве в оценке событий в стране.

Как человек, активно участвующий в рабочем движении, я попытаюсь рассказать о наших с тобой проблемах, о нашем будущем, прикинуть — каким может быть выход из беды.

Я предлагаю разговор об экономике и собственности, демократии и «демократах», истории профсоюзного и рабочего движения, о лжепрофсоюзах, о системе социального страхования, об уставах предприятий и коллективных договорах, о возможности противостоять «прихватизаторам» и демагогам через использование их же законов.

Мой монолог обращен к людям, задавшим себе вопрос: «Человек ли я?» и ответившим на него честно и правильно. Пусть слушают и те, кто думает, что за них решат проблемы и задают себе вопросы: «А что я буду иметь? А что толку? Пусть другие...» Я обращаюсь и к тебе, обыватель, зная как трудно тебе прозреть. Но время заставит и тебя определить свое место в общей борьбе. И чем быстрее ты поймешь, что твоя аполитичность и безразличие направлены против тебя, тем быстрее почувствуешь себя человеком и гражданином, тем раньше появится уверенность в завтрашнем дне.

**Что нас ждет?**

Те, кто держал нас за скотов десятилетиями, готовят нам еще одно ярмо. Им нужно решить как минимум две задачи: поиметь побольше надежных источников дохода — землю, здания, сооружения, оборудование и сырье; заставить тебя обслуживать все это в качестве наемной рабочей силы за минимальную плату. И пока ты будешь надеяться на совесть номенклатуры, эти люди целенаправленно загоняют нас в новое стойло, еще страшнее прежнего.

Тебе морочат голову: «приватизацией», «разгосударствлением», «выкупом», «чеками-ваучерами» и т.д. Они войдут в придуманный ими рынок с миллиардами, а ты придешь наниматься к ним на работу. Забивая нам мозги псевдорыночными лозунгами, они делают ставку на люмпена и труса, на наше невежество.

Повальные сокращения и увольнения, остановка предприятий на длительные сроки — этим пытаются поставить рабочих на колени, заткнуть им рты и провести «свою» приватизацию. Существует безработица в скрытых формах: отпуска без содержания и сокращенная рабочая неделя. Главных ее «прелестей» мы еще не вкусили, но страх, подозрительность, лакейство и наушничество уже сейчас парализуют коллективы. Используя невежество и страх, твои права еще до приватизации сведут на нет путем банального мошенничества. Например, расторгнут трудовой договор под предлогом ликвидации, отсутствия объемов производства, убыточности и т.д. Подменят трудовой договор индивидуальным срочным контрактом, осуществят «решением» запуганного, запутавшегося коллектива «преобразование» государственного предприятия в иное, с нужным им, но не выгодным тебе уставом, и многое другое.

Глядя на нагнетание негативных настроений, дескать, «плохи наши дела, а будут еще хуже») банкротство предприятий, искусственый дефицит и спекуляцию, напрашивается вывод о спланированной и направленной акции. Та самая «мутная водичка» в которой, по словам наших, не устающих радеть о народном благе, парламентариев — родится собственник.

Мы и дальше будем говорить о нашей жизни. Пусть это поможет тебе и мне в борьбе за возможность стать хозяином на своей земле, справедливо получить и, наконец, увидеть нашу жизнь такой, какой она должна быть.

**В. ШАРАПОВ.**

**НА СНИМКЕ: В.В.Шарапов.**
**Фото А. ЛИТИНА.**

● **Па даным аблстатупраўлення**

## НАКОЛЬКІ ПАДАРАЖАЛА НАША ЖЫЦЦЁ?

| Прадукты | Сярэдні кошт за 1 кг руб. і кап. | | Кошт кожнага тавару ў адносінах да сярэднемесячнага заробку ў працэнтах | |
|---|---|---|---|---|
| | ВЕРАСЕНЬ | | ВЕРАСЕНЬ | |
| | 1991 | 1992 | 1991 | 1992 |
| Гавядзіна І катэгорыі | 6,87 | 65,30 | 1,2 | 1,1 |
| Свініна | 5,30 | 79,30 | 0,9 | 1,3 |
| Каўбаса вараная, І гатунак | 7,38 | 62,96 | 1,3 | 1,1 |
| Масла сметанковае | 8,60 | 125,00 | 1,5 | 2,1 |
| Алей | 3,10 | 47,00 | 0,5 | 0,8 |
| Малако (за літр) | 0,55 | 6,23 | 0,1 | 0,1 |
| Смятана | 3,00 | 32,50 | 0,5 | 0,5 |
| Яйкі сталовыя (за 10 штук) | 1,80 | 20,00 | 0,3 | 0,3 |
| Цукар | 2,23 | 36,54 | 0,4 | 0,6 |
| Мука пшанічная вышэйшага гатунку | 1,40 | 22,12 | 0,2 | 0,4 |
| Хлеб аржана-пшанічны | 0,53 | 9,78 | 0,1 | 0,2 |

*Владимир ШАРАПОВ.*

# Реформы, рынок, собственность

НА ГОСУДАРСТВЕННОМ уровне официально не определены название сегодняшнего строя и его перспективы. Но думаю, что уже несколько лет «ускоряясь» и «перестраиваясь», нас ведут в капитализм, причем пока отчетливо видны худшие его формы.

Не спросив нашего желания, стоящие у больших и малых кормушек отдали предпочтение «образцовому капитализму» и занялись привычным делом: грабежом, взяточничеством, присвоением, мотивируя тем, что рынку и частной собственности на данном этапе альтернативы нет.

Альтернатива есть, тем более у этих знатоков нет ясного представления о рыночной экономике, ясного представления, которое они заменяют псевдорыночной чепухой.

Лишив нас мизерных гарантий социализма, который за счет нищенской оплаты труда давал возможность учиться, лечиться и иметь худую крышу над головой, они обещают нам всем собственность. Так ли это?

Пока нам предлагают заботу о себе самим, и оставить в «тоталитарном» прошлом гарантии счастливого детства и хоть сколько-нибудь обеспеченной старости. А как же стоимость наших рабочих рук? Ведь удельный вес заработной платы (на рубль прибыли) так и останется несколько копеек? Может быть, новые капиталисты, кто платил нам мизерные гроши от получки до получки, будут добрее к рабочему человеку? Конечно, нет.

Сейчас нас держат в неведении о подлинном механизме реформ, о наших реальных правах на собственность. Простому человеку обещают разгосударствление, приватизацию, аренду с выкупом, а главное чеки-ваучеры, создавая видимость справедливого раздела. Однако, заменив одну бумагу — чек, на другую — акцию, ты так и останешься с носом, потому что кто-то уже загреб миллионы. Поэтому не от великого ума и из одной предприимчивости богатеет нынешний предприниматель, а прежде всего потому, что беднеем мы с тобой.

Видимо из желания сделать всех нас собственниками поголовно власть предержащие сожгли в инфляционном костре вклады нескольких поколений, лишив стариков не только хлеба, но и возможности нормально себя похоронить.

Истории было угодно сделать трудящихся фабрик и заводов хозяевами их. Но противостоящий нам клан стяжателей и хапуг строит свое будущее за счет обнищания и грабежа тех, кому эта собственность принадлежит по сути и по праву.

Мы с тобой знаем два вида собственности (государственная и частная). Известно, что для того, чтобы существовали акционерные общества, товарищества, кооперативы, необходимо объединить на добровольной основе обладателей частной собственности или капитала. Но у нас все поставлено с ног на голову. Кто-то не собирается делать всем равные стартовые условия, но предлагает вариант приватизации, а львиная доля общенародной собственности за партократами и хозяйственной номенклатурой. Это они, получившие еще в эпоху «развитого социализма» должности и доступ к общему народному достоянию, пытаются узаконить их присвоение. Для осуществления этого и создан весь этот экономический, правовой и финансовый беспредел.

Например, финансы. Привыкнув к слову «инфляция», мы даже не задумываемся о причинах падения рубля по отношению к доллару (уже почти 350 к 1). А ведь элементарное сопоставление мировых и внутренних цен на труд и сырье дает нам не картину «неправильного» внутреннего ценообразования, а явно искаженный курс рубля. Кому это выгодно?

Тем, кто стоит за спиной «черного рынка», который цивилизованным не назовешь. Теневому и торгово-посредническому капиталу, сделавшему деньги на демпинговых продажах за рубеж товаров и сырья, низкая цена которых обусловлена нашим неоплаченным трудом.

Взамен мы получаем дорогой третьесортный «импорт» вместе с ценой. Подобная торговля вполне устраивает Запад, поскольку она выгодна для них, полностью разрушает конкурентноспособную им промышленность. Западные товары гибельны для низкопроизводительной неконкурентной промышленности. Между тем промышленный директорский корпус и сельскохозяйственные руководители, нырнувшие в мутные воды коммерции, оказались заложниками, имея с одной стороны разорительную политику правительства, с другой — все более накаляющуюся массу озлобленных рабочих. Большинство из них осознает необходимость инвестиции, новых технологий, рост производительности труда, дающий возможность преодолеть абсурд нынешней хозяйственной деятельности. А правительство умело прикрывается разговорами о реформе и продолжает спасать накопленные за счет народа состояния определенного слоя людей былой административно-командной системы.

Как быть? Мало, используя правовые и коллективные возможности, заменить приученных к бесплатным условиям плановой экономики некоторых растерявшихся хозяйственников. Нужен грамотный, профессионально подготовленный, честный руководитель. Наше спасение в остановке инфляционной направленности экономического процесса. Нужен поворот в сторону приоритетов налоговых и инвестиционных льгот промышленности и сельскому хозяйству.

Кадровыми перестановками, указами и постановлениями, призывами сносить все новые трудности, делу не помочь. Сегодня каждый рабочий скажет: «Для чего?» Чтобы «захватчики» взяли себе то, что они не создавали, а иностранные концессионеры получали льготные права на собственность будущих поколений? Нет. Нужны новые программы и новые люди.

Защитить себя в этом плане ты, товарищ, пока не готов, да и действия против тебя основаны на твоей же психологии. Быстро прозреть и сплотиться невероятно сложно. Так кто же сегодня способен открыть тебе глаза на обман, подняь цену на труд, доказать наше право на собственнось? Такие люди есть. Это те, кого ты сегодня «продаешь», с кем пытаются разделаться от твоего имени. Сколько не три свои глаза, а просвета в кошмаре, названном реформами, ты не увидишь. А, может, услышим, что правительство давно ищет выход из кризиса, ссылается на объективные и субъективные причины, приняв облик этаких реформаторов и демократов. Самые рьяные, дорвавшиеся до трибун, заявляют, дескать, ленивы мы, не умеем работать. Правительство у руля выход ищет. Может быть плохо ищет, а, может быть, не там...

# ЗА МЕЖАМІ МАГІЛЁВА

Бабруйск

## Хто прыйдзе да ўлады?

«Вопрос, конечно, интересный», — як гаварылася ў адной рэпрызе. У нейкай часткі людзей бытуе думка, што цяпер кіруюць дэмакраты. Такое мяне проста бянтэжыць. Дастаткова параўнаць спіс членаў былога Бабруйскага гаркама КПБ, былых Ленінскага і Першамайскага райкамаў КПБ са спісам кіраўнікоў гарсавета і райсаветаў, каб усклікнуць: «Дык вось што азначае Юр'еў дзень!».

Сёння па раскладу палітычных сіл нельга гаварыць аб рэальнай шматпартыйнасці. Партыі дэмакратычнага кірунку мясцовыя ўлады «прыдушваюць», не садзейнічаюць іх дзейнасці.

Партыі камуністычнага кірунку ўяўляюць сабой палітычны труп. Але не трэба легкадумна адносіцца да будаўнікоў светлай будучыні, дактароў рэанімацыі пабудовы бяскласавага грамадства і сацыялістычнага выбару.

Справа ў тым, што кожная партыя павінна мець сацыяльны грунт. У лібералаў гэта прадпрымальнікі: сацыял-дэмакратаў — заможныя людзі, сярэдні клас, у камуністаў — люмпены, гомасавецікус.

Менавіта жабрацкае становішча нашай эканомікі стварае умовы для вяртання ПКБ да ўлады. Але гэта не адбудзецца, бо за кіруючы стол рыхтуецца сесці ПНБ. Дасведчаны чытач у палітычным жыцці ўзгадае, што такой партыі няма. Не трэба чакаць картавага выкрыку аб тым, што ёсць такая партыя. Назва — Партыя наменклатуры Беларусі.

Па сваёй сутнасці гэта ваўкалакі: у патрэбны час ператвараюцца ў дэмакратаў, біржавікоў, памяркоўных беларусаў, абаронцаў інтарэсаў працоўных і нават шчырых вернікаў.

ПНБ не мае ідэалогіі, але цвёрда прытрымліваецца прынцыпа — трымаць нос па ветру. Калісь называлі бела-чырвона-белы сцяг фашысцкім, а цяпер сядзець пад ім. Упарта змагаліся за Саюз, а цяпер прыхільнікі незалежнасці, бо суверэнітэт пашырыў магчымасці бываць за мяжой без паклона Маскве.

Варта пазайздросціць энергіі, з якой абаранялі грамадскую ўласнасць на сродкі вытворчасці, а цяпер прыватнікі з вялікай літары. Відаць, бізнесу навучыліся ў Вышэйшай партыйнай школе.

ПНБ лёгка адурманіць просты люд. У іх руках сродкі масавай інфармацыі, немалыя фінансавыя сродкі, палітычная ўлада. З дапамогай «шасцёрак» ствараць грамадскую думку ў патрэбным ім светапоглядзе, пойдуць на саюз з любымі сіламі і на любую здраду дзеля захавання ўлады. Не выключана, што да іх далучыцца ПКБ. Але камуністы на тэрыторыі Беларусі (больш адпаведная назва партыі) могуць разлічваць на ролю Моські з вядомай байкі І.Крылова.

А ці ёсць сілы, якія супраць наменклатуры Беларусі, майстроў дзікай прыватызацыі?

У першую чаргу гэта дэмпартыі і народны фронт. Яны не маюць вялікіх сродкаў, амаль адсутнічае друк, але ёсць падтрымка грамадства.

Давайце ўспомнім гісторыю стварэння БНФ. Таталітарная машына КПБ з пачварнай сілай накінулася на народны фронт. Бруд, хлусня, правакацыі — надзейныя і спрактыкаваная зброя камуністаў не мела поспеху. Няхай у апазіцыі малая колькасць дэпутатаў, але іх праца дала вялікі плён. Давайце не забываць не такую далёкую гісторыю. Палітычная актыўнасць кожнага грамадзяніна, вызваленне ад опіўма камунізма, стваральная праца нашага таленавітага народа — вось надзея, крыніца росквіту нашага жыцця.

**Мікалай ВЯРЫНСКІ.**

Гродна

## «На мой гонар прысягаю...» —

гучалі словы скаўцкай прысягі паблізу Гародні, у наднёманскім бары. Тут асталяваўся скаўцкі летнік «Пужыцкі Луг», першы з трох, праведзеных сёлета Аб'яднаннем Беларускіх Скаўтаў (АБС). Два другіх адбыліся ля Маладзечна і пад Менскам. Удзельнічалі ў іх скаўты Менскай, Гарадзенскай, Гомельскай харугваў і Парэцкага звязу. У сакавіку гэтага года скаўцкія суполкі правялі свой Устаноўчы Сойм, на якім прынялі Статут і стварылі новую грамадскую арганізацыю «Аб'яднанне Беларускіх скаўтаў». 12 жніўня гэтага года яна была зарэгістравана.

АБС лічыць сябе спадкаемнікам скаўцкага руху як на Беларусі, так і у замежжы, куды раскідваў беларусаў няўмольны лёс і ваенныя завірухі. Дзякуючы тым, хто аднаўляў беларускі скаўцкі рух у цяжкія пасляваенныя гады у Германіі, Англіі, ЗША, мы сёння маем даведнікі, спадарожнікі на беларускай мове. Гэта ж не толькі сведчанне беспрыпыннасці нашага скаўцкага руху, але і каштоўная дапамога ў сённяшняй практыцы.

Зроблены яшчэ адзін невялікі крок па шляху нацыянальнага адраджэння ў поўнай адпаведнасці з першым з трох прынцыпаў скаўцкага — «вернасць Богу і Бацькаўшчыне».

У непарыўнай еднасці гэтых дзвюх плыняў грамадскай свядомасці якія прабіваюцца праз кару нігілізма і «добраахвотнай» русіфікацыі, ёсць і будзе сіла беларускага скаўцкага руху.

Ён не належыць да так званых масавых, але і не нагэтулькі элітарны, каб звычайныя дзяўчынкі і хлопчыкі не маглі ў ім удзельнічаць з вялікай карысцю для сябе і грамадства. Патрэбна толькі дапамога старэйшых і дарослых дзеля выхавання годных грамадзян Беларусі.

АБС ахвотна наладзіць кантакты з такімі людзьмі і спадзяецца на дапамогу рэдакцыі «Ратушы».

**А. ЖУКОЎСКІ,**
**скаут-канцлер АБС.**

**АД РЭДАКЦЫІ:** *тым, хто зацікавіўся ідэяй беларускага скаўтызма, паведамляем тэлефоны і адрас нашага аўтара:* **230010, Гродна, в. Гая, д. 7, кв. 66. Тэл.: 6-09-18.**

## НА ПРИЕМЕ
### У ПРЕДСЕДАТЕЛЯ ГОРИСПОЛКОМА В.П.АЛИМБОЧКОВА

Наш город известен в Белоруссии, как оплот партийной номенклатуры. При полном отсутствии научной интеллигенции все ключевые посты она сегодня сохраняет за собой. Местная прокоммунистическая газета «Бабруйскае жыццё» до такой степени задурила головы обывателям, что те искренне верят, что у власти демократы которые и развалили экономику. А когда просишь показать любого демократа — в ответ бессмысленно таращат глаза и сосредоточенно морщат квелые с похмелья лбы.

Местная рада БНФ решила организовать встречу депутатов Верховного Совета с населением города. Для этого потребовалось помещение. Прекрасно понимая, кому сегодня принадлежит власть и какова ее тактика, мы начали с дальних подступов. Вначале договорились частным образом арендовать зал в гарнизонном Доме офицеров. При встрече с его руководством для определения окончательного дня, последовал отказ с туманным намеком на якобы большую загрузку этого, практически пустующего, помещения.

Зрелищными и культурными мероприятиями ведает отдел культуры горисполкома. Мы встретились с новоиспеченым на последней сессии горсовета заведующим В.Г.Черняком, у которого не нашлось ни желания, ни возможности оказать содействие встрече депутатов с избирателями. Пришлось обратиться к мэру города В.П.Алимбочкову.

Н.В.Рабус, его секретарь, предупредила нас, что на приеме у него два человека и она доложит о нас. Прошло полчаса. Мэр принял двух человек, а на нас, по словам секретаря, у него не нашлось времени. Решили подождать, посидели еще, тихо и скромно, в коридоре.

В.П.Алимбочков сам факт обращения к нему от Бобруйской рады БНФ расценил как личное оскорбление. Узнав, что его 2 часа дожидаются представители фронта, он в крайнем возбуждении выскочил в коридор и заорал, предлагая нам отправиться на базар. Обозвал хамами, не давая нам и слова, чтобы объяснить причину посещения. В конце мэр заявил, что не желает общаться с нами, так как мы не доросли до его уровня.

Со своего «сверхвысокого» уровня В.П.Алимбочков любил давать интервью газетам о своей широте взглядов и терпимости к инакомыслию. После провала августовского путча он, помнится, всех призывал к консолидации, терпению. Теперь, укрепившись на верхушке, добившись полного контроля над собственностью, обеспечив экономическое благополучие себе и своим соратникам отбрасывает призыв к терпению, к диалогу и к консолидации как ненужный фиговый листок. Маска сброшена и проглянул злобный оскал бывшего первого секретаря горкома партии крупного города.

Может ли быть хоть видимость объективности, беспристрастности, равного отношения к политическим течениям различной направленности, когда весь горсовет сформирован бывшим горкомом КПБ? Нет, конечно!

Но я хочу напомнить старую библейскую истину: какой мерой мерите, такой и вам отмерено будет.

**М.ВЕРБОВСКИЙ,**
**председатель Бобруйской рады БНФ.**

## В ГОРОДЕ КРИЧЕВЛЯН И КРИЧЕВЛЕНИНЦЕВ

КРИЧЕВ — особый город, расположенный так же, как Чериков и Славгород, ближе к Чернобыльской зоне. Однако смелых демократов в нем очень мало и все на «учете». Кричев — город цементников, резинщиков и строителей. На центральной площади стоит Ленин. В городе около ста предприятий и организаций. Возглавляют их все те же, кого поставили в то процветающее, красное, как вино, время. Они сидят в кабинетах с партбилетами — на случай, если надо показать; носят при себе — чтобы если туго, тут же сжечь или сжевать его, как делали ленинцы при арестах.

Опыт конспирации у коммунистов есть. Одни проходят перерегистрации, другие молчаливо согласились — тоже члены. Бывшие, настоящие... Сейчас их трудно определить. А для меня все те же лица, все те же пухленькие ручки и пузы, и галстуки, и походки. Они не работали в хомутах, в упряжке. Они привыкли держать в упряжках и страхе народ.

Им подарили все ключевые посты. И кричевским людям можно не дать сахару, водки, масла. Пусть ропщут на «демократов», которые у власти. Однако никаких демократов у власти в Кричеве нет. Все в Советах — бывшая номенклатура. Они пугают народ сокращением и безработицей, а сами укрепляют и набирают очки, ездят на бывших гокомовских «Волгах», строят дачи, имеют личные машины.

По-прежнему стоят на площади два Дома Советов, райисполком и горком — горсовет. Народный депутат Республики Беларусь Сапронецкий начал было вести работу по сокращению и объединению, как это сделали в других районах. Ан нет! Остановилась работа!

В городе шагает безработица. Однако бюджетники «горкомсоветовцы» при премиях. Меняют быков на индюков! Например, в горторге сократили директора В.Курбацкого за то, что завалил работу. И поставили С.Грабского, бывшего инструктора горкома КПБ, который тоже завалил работу в РАЙПО. 3 сентября пришла моя девятнадцатилетняя дочь и сказала, что ее сократил директора горторга С.Грабский.

Увольнение моей дочери — акт и против меня, как журналиста. Намек и мне. Но я, как граждани, выражаю политическое недоверие горторгу и горисполкому, я уже не боюсь потерять работу, так как что-то умею делать: фотографировать, писать. Труднее придется вам, когда останетесь без кабинетов. Одумайтесь, не пугайте народ, не делайте вид, что в плохом снабжении и безработице повинны демократы. Это сейчас на руку вам.

Безработицей всех не запугаешь. Будем голодные, но злые. Безработные, но честные, со своим мнением, готовые на борьбу с номенклатурщиками.

Не забывайте, что мы уже народ суверенной Республики Беларусь. Награбите у народа — боком выйдет.

История повторяется. Нельзя народ всю жизнь держать в ГУЛАГАХ. И кричевский ГУЛАГ разрушится...

**Валерий БЫСОВ,**
**журналист Кричевской райгазеты.**

ГОМЕЛЬ

## *Гарадскія найменні. Клопаты гамяльчан*

БОЛЬШ за два гады дзейнічае ў Гомелі абласны тапанімічны савет, які ўзначальвае кандыдат філалагічных навук Аляксандр Рогалёў, выкладчык універсітэта, вядомы ў рэспубліцы знаўца тапанімікі, аўтар дзесяткаў навуковых артыкулаў і кнігі «Сцежкі ў даўніну» пра геаграфічныя назвы Беларускага Палесся.

Пачаўшы з абласнога цэнтра, члены камісіі прааналізавалі сістэму сучасных унутрыгарадскіх назваў і склалі своеасаблівую «Чырвоную кнігу» тапанімаў Гомеля і яго наваколляў. У яе ўключаны назвы самых розных геаграфічных аб'ектаў, якія ўяўляюць каштоўнасць з гісторыка-культурнага і лінгвістычнага погляду, з'яўляюцца «люстэркам» іменна мясцовай гісторыі. Тыя, што адлюстроўваюць не кан'юнктурныя і мінулыя, а стабільныя, агульначалавечыя культурна-эстэтэчныя каштоўнасці. Гэта своеасаблівы летапіс горада, адлюстраваны ў назвах.

У «Чырвонай кнізе» змешчаны, ў прыватнасці, 64 сучасныя назвы вуліц і 27 старых, якія савет аднёс да ліку тапанімічных помнікаў. Сярод гэтых 64-х сучасных найменняў большая частка звязана з іменамі людзей ураджэнцаў Гомеля і яго ваколіц, што жылі і працавалі ў горадзе, пакінулі свой след у яго гісторыі.

Савет імкнецца да таго, каб у назвах вуліц і плошчаў Гомеля, другіх унутрыгарадскіх аб'ектаў была адлюстравана выключна мясцовая гісторыя. Калі кожны горад будзе прытрымлівацца такога правіла, можна дасягнуць той своеасаблівасці мясцовых тапанімічных мікрасістэм.

Савет не лічыць помнікамі назвы, што ўслаўляюць рускіх і нават беларускіх пісьменнікаў, якія ніяк не звязаны з горадам: вуліцы Караленкі, Талстога, Дастаеўскага, Тургенева, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Чэхава, Крылова.

Няма ў «Чырвонай кнізе» найменняў у гонар некаторых вучоных, палітычных, рэвалюцыйных дзеячаў і інш. Вуліцы Вароўскага, Дзяржынскага, Гастэлы, Кісялёва, Хмяльніцкага, Мічурына, Чапаева...

Савет не падтрымаў прапанову аб прысваенні галоўнай вуліцы Гомеля Савецкай (раней Румянцаўскай) імя Францыска Скарыны. І недарма, бо імя першадрукара, ураджэнца Полацка, ужо ў традыцыях бальшавіцкай тыпавухі тыражыруецца ў многіх гарадах.

Вось і ў Гомелі, дзе ён не бываў і не меў ніякіх адносін да палескага краю, паспелі назваць універсітэт імем Скарыны. Хаця куды больш яму б падышло імя славутага Кірылы Тураўскага, або ўраджэнца горада (ён шмат працаваў і ў Магілёве), гісторыка і археолага, этнографа і фальклярыста Еўдакіма Раманавіча Раманава (1855-1922).

Тыя назвы, што для Гомеля помнікамі не з'яўляюцца, савет разглядае як больш ці менш прыдатныя ўмоўныя абазначэнні, «адрасныя знакі», якія яшчэ вельмі доўга могуць заставацца на карце горада. Бо немагчыма іх дастаткова хутка замяніць новымі. Тым больш такімі, якія б ўяўлялі каштоўнасць, былі гісторыка-культурнымі і моўнымі помнікамі.

У Гомелі, як і ў многіх «савецкіх» гарадах, некаторыя назвы ўвогуле абсурдныя, бязглуздыя. Вуліцы Праўды, Радасці, Дружбы, Безымянная, Фізкультурная, Свабоды.

У свой час жыхары горада на Сожы рэзка адмоўна рэагавалі на рашэнне гарвыканкома надаць шэрагу новых вуліц такія найменні: Бірузовая, Гваздзіковая, Верасковая, Аранжэрэйная... Такія назвы пазбаўлены ўсякай матывацыі і папросту дэзінфармуюць. Як скажам, Сасновая вуліца, дзе няма ніводнай сасны.

У рэальным горадзе такога няма. У ім праз дзесяцігоддзі савецкай улады поўны кавардак, гармідар, бязладдзе. Ідэалагічнае і транспартнае, мемарыяльнае і вытворчае. І ніякае. Праспект Кастрычніка, плошча Перамогі, вуліца Першамайская, Чангарскай дывізіі, Алімпійская Транзітная, Хімічная, Тралейбусная, 60 год СССР, Сельмашаўская, Трактарная.

Масавая тапанімічная непісьменнасць нашых дзён нарадзіла два кантрасты. Адны патрабуюць вярнуць усе дарэвалюцыйныя назвы, скасаваўшы савецкія. Другія лічаць, што гэта справа дзесятая. Спачатку лепш накарміць народ, навесці парадак на тых жа вуліцах, у гарадской гаспадарцы...

Мяняць дзеля таго, каб мяняць, здымаць адны ідэалагічныя шыльды і вешаць другія, наўрад ці трэба. А вось упарадкаваць тапанімічныя сістэмы гарадоў сапраўды варта, каб раскрыць усе асноўныя функцыі гарадскіх найменняў — адрасную, пазнавальную, культурна-гістарычную, эстэтэчную.

Гэтым і займаецца цяпер савет па тапаніміцы, створаны ў Гомелі. Спецыялісты, ўлічваючы ўсе «за» і «супраць», пачынаюць пазбаўляць горад ад хаосу найменняў, які панаваў дзесяцігоддзямі.

**ПА МАТЭРЫЯЛАХ ПРЭСЫ**

# КУЛЬТУРА КУЛЬТУРА



**Агульнагарадское праваслаўнае свята Пакрова ўпершыню на Магілёўшчыне і Беларусі адзначана ў самым старажытным горадзе нашай вобласці.**

● *Рэпартаж*

## Віравала свята ў Мсціславе

...СКЕПТЫКАЎ між іншым хапала. «Чаму ў рэлігійным варыянце?», «Чаму ў маленькім горадзе?», «Там, дзе ніколі не было Пакроўскага храма?» Пыталіся не дылетанты — спрактыкаваныя работнікі культуры, вопытныя арганізатары. Да іх жа гонару трэба сказаць: што датычыцца справы і дапамогі, дык адкінуўшы скепсіс працавалі ўсе дружна і творча. Так як і задумалі супрацоўнікі абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культасветработы (дырэктар У.М.Гіль), сцэнарысты і пастаноўшчыкі В.І.Басько і З.І.Білык, культработнікі раёна (заг. аддзела культуры А.І.Зуеўскі).

...Нават і Бог паклапаціўся: 14 кастрычніка, пасля некалькіх дзён марознага і ветранага надвор'я, з самай раніцы на небе ні хмурынкі, сонечна, ціха і цёпла, як толькі можа быць такой парой. На галоўнай плошчы Мсціслава, суседніх вуліцах Калініна і Савецкай гараджан, іх гасцей з навакольных вёсак і суседніх раёнаў чакалі маляўнічыя і багатыя гандлёвыя рады.

Багатыя? Так-так. На асартымент грэх было скардзіцца. Усё нават не ўгледзіш. Ад бульбы і каўбасы, шматлікай выпячкі і вяндліны да markнага адзення і дываноў, крышталю, электратавараў, кніг і г.д. — усё гэта склала стракаты і разнастайны кірмаш. Толькі цэны не ўдакладняю...

Лепш пра ўзнеслае скажам. Пра што бязбожна-атэістычныя слоўнікі не пісалі.

**ПОГЛЯД У МІНУЎШЧЫНУ**

Свята гэта з'явілася ў хрысціян у 910 годзе. У час асады Канстанцінопаля качэўнікамі-сарацынамі. Блажэннаму Андрэю і яго вучню Епіфану з'явілася Багародзіца, якая трымала над малельнікамі белае пакрывала і прамаўляла малітву пра выратаванне.

Потым, калі хрысціянская царква канчаткова падзялілася на ўсходнюю і заходнюю (праваслаўе і каталіцызм, 1054 г.), Пакроў (беларусы кажуць і «Пакровы») стаў адным з галоўных свят праваслаўных, асабліва сялян нашай сярэдняй паласы.

Пакроў амаль дакладна супадае з поўным заканчэннем усіх работ у полі і ў садзе, падрыхтоўкай да зімы, пераводам жывёлы на стойлавае ўтрыманне, пачаткам сялянскіх вяселляў, зімовых работ (ткацтва, рамяство і інш.) і ўласна пачаткам зімы. Таму і ў самых рэлігійных людзей асноўныя прымаўкі і прыкметы звязаны з прыродай і ўласным жыццём. «Пакровы пакрываюць траву лістам, зямлю снегам, ваду лёдам, а дзяўчат шлюбным чапкам», «Прыйшлі Пакровы, пытаюць ці да зімы гатовы», «На Пакрова дай сена карове». «Якое надвор'е ў дзень Пакрова, такое і будзе ўсю зіму да вясны» і г.д.

Так вось і сталася, што ў нашых продкаў пасля асноўных т.зв. двунадзесятых (дванаццаці) святаў, звязаных з жыццем Ісуса Хрыста і Божай Маці, Пакроў стаў самым шаноўным. Да таго ж і паласавацца добра дазваляў, бо пасты да яго не прымеркаваны.

**РАДАВАЛІ СПЕВЫ І МАЛІТВЫ**

Таму не толькі людзей, але і багатыя восеньскія дары асвячаў і благаслаўляў на галоўнай гарадской плошчы галоўны пастыр усіх праваслаўных Беларусі, яе патрыяршы экзарх, **мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі ФІЛАРЭТ.** Ён, і архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі **МАКСІМ** былі ў той дзень бадай самымі тытулаванымі і ганаровымі гасцямі. А прыбылі ў суправаджэнні не толькі духоўных асоб, але і магілёўскага духоўнага хору. У яго суправаджэнні адбыліся ўрачыстыя малебны ў кафедральнай царкве Аляксандра Неўскага і на плошчы, куды з храма прыйшоў не менш урачысты Хросны ход.

...А свята віравала ваўсю. На



двух сцэнічных пляцоўках змяняючы адзін аднаго з запалам выступалі самабытныя народныя калектывы Мсціслаўшчыны (фальклорныя ансамблі з вёсак Сялец, Мазалава, Шамаўшчына, «музычнай» Лютні), народныя фальклорныя ансамблі «Люлечка» (Асіповічы), «Дзянніца» (Дрыбін), «Калініца» (Касцюковічы), вёсак Стары Дзедзін Клімавіцкага і Прусіна Касцюковіцкага раёнаў і многія (усяго было больш за дваццаць ансамблей) другія. Да месца прыйшліся выступленні расійскіх гасцей — артыстаў-аматараў з суседняй Смаленшчыны, з Ельніцкага раёна — радзімы М.І.Глінкі.

Імкліва на адным дыханні вялі вяселыя праграмы артыст Васіль Галіц, ветэран сцэны заслужаны работнік культуры Беларусі Валянцін Ермаловіч, Уладзімір Бурканаў, Алег Рэдзькоў, Таццяна Мамона.

І людзі з радасцю, забыўшыся на ўсе нягоды, весяліліся, пераходзілі ад аднаго ансамбля да другога, слухалі, падпявалі.

**І НА ДЗЕТАК НЕ ЗАБЫЛІСЯ**

Проста на прыступках Дома культуры з імі праводзілі гульні і конкурсы з прызамі вясёлыя забаўнікі і клоўны (не абы-якія — лаўрэаты абласных ды рэспубліканскіх конкурсаў). А побач дзятва з цікавасцю разглядала выставу самаробак вучняў мсціслаўскіх школ: мяккія цацкі, забаўныя фігуркі з розных пладоў ды шышак, выпільванне па дрэву і інш.

Туды-сюды сноўдалі конныя вазкі — каталі малечу.

**ХТО ХАЦЕЎ — ПАД'ЕЎ**

Тых, хто згаладаўся, чакаў прыемны сюрпрыз. Падсілкавацца проста на плошчы можна было самымі рознымі дамашнімі стравамі (бабкай, тварагам, малаком, блінамі, салёнымі агуркамі, печывам, салатамі — ўсё не пералічыць) ды за чыста сімвалічную плату — 3-5-10 рублёў. Сёння і ў сталоўцы за іх не паеш, не тое, што ў рэстаране. Ўсё гэта прывезлі жанчыны з навакольных вёсак.

У двары храма Аляксандра Неўскага дзелавіта пыхкалі дзве армейскія палявыя кухні. Салдаты і прапаршчыкі з Магілёва частавалі ўсіх жадаючых (бясплатна) гарачымі кашай і чаем. Папытаў: казалі больш за сто чалавек падмацаваліся ў іх. Ад нямоглых бабулек да дзетак з мясцовых школ-інтэрнатаў.

Але трэба ж некалі і кропку ставіць, бо ўсе цікавае на газетнай старонцы не змесціць.

**ДОБРЫ ПАЧАТАК ЗРОБЛЕНЫ**

Цікавае, усеабдымнае і змястоўнае свята падарылі ў гэты дзень мсціслаўцам і іх гасцям работнікі культуры і артысты нашай вобласці, гарадскія ўлады і ўсе, хто ім актыўна дапамагаў. Нацыянальнае па зместу (усе выступленні ішлі на беларускай мове), сучаснае па стылю, якое ўдала спалучыла і т.зв. свецкі і духоўны пачаткі. Аказваецца і без нотных дакладаў, без прэзідыўмаў і чырвоных сцягоў можна шчыра ад душы весяліцца ў наш час (складаны, цяжкі, нялёгкі і г.д.)

І ніхто не палічыў «ідэалагічнай дыверсіяй» вялізныя літары «Пакроў» на фасадзе былога райкама партыі, перад якім выступалі (дарэчы, спіной да яго) галоўныя святары вобласці і рэспублікі.

Добры і перспектыўны пачатак зроблены. Дай, Божа, каб стаў ён пачаткам (а лепш працягам) добрай і шчырай чалавечнай традыцыі, **Пакроў Прасвятой Уладычыцы нашай Багародзіцы і прыснадзевы Марыі.** Божае свята з чалавечым тварам.

**Мікалай НОЖНІКАЎ,**
**наш спец. кар.**
**Фота І. САВОСІНАЙ.**



## ЮБІЛЕЙ КАСЦЁЛА

Вернікі-каталікі Магілёва адсвяткавалі ў кастрычніку 300-годдзе стварэння касцёла Святога Станіслава. Урачыстасці працягваліся пятнаццаць дзён. Апошнія два былі прысвечаны святыні ўсіх каталікоў Маці Божай Фацімскай.



Яе цудоўнае з'яўленне адбылося непадалёк ад вёскі пад назвай Фаціма ў Партугаліі, дзе ў 1917 годзе тром сялянскім дзеткам, якія пасвілі жывёлу, шэсць разоў запар з'явілася Багародзіца. Яна перадала ім пажаданне каб Расія, ў якой тады адбываліся многія грозныя падзеі, была звернута ў каталіцтва. Тады і там і на Захадзе усталюецца мір...

Ці так было сапраўды — не нам меркаваць. У каталіцкай рэлігіі Фацімскае цуда даўно стала адным з найбольш ушаноўваемых Вёска Фаціма зрабілася месцам паломніцтва каталікоў усяго свету. Савецкім жа афіцыйным атэістам-бязбожнікам пастаянна мроіўся ў Фаціме прывід «антыкамуністычнай прапаганды клерыкальных кругоў у перыяд «халоднай вайны» («Католицизм. Словарь атеиста», М.1991) Ды ім паўсюдна і заўсёды мроілася нешта «не наше».



Скульптурныя адлюстраванні Маці Божай Фацімскай стварылі многія таленавітыя мастакі. Адна з такіх статуй ёсць і ў магілёўскім касцёле.

*У заключныя два дні касцёльнага свята адбыліся разнастайныя літургіі і агульныя малітвы вернікаў, прысвечаныя Маці Божай Фацімскай на беларускай, рускай і польскай мовах, хросны ход са скульптурай вакол касцёла, т.зв. каранацыя і пасвячэнне фігуры Маці Божай Фацімскай. Ва ўрачыстасцях удзельнічалі ксяндзы і вернікі не толькі Магілёва, але і Барановіч, Барысава, і другіх гарадоў.*

**М.ВЕРАСЕНЬ.**
**Фота М.ЦІТОВА.**

## Боль, страх і надзея

Усе мы зараз жывём у час бурных палітычных, эканамічных і духоўных пераўтварэнняў, з трывогай аб нашых дзецях: што ж чакае іх наперадзе? Вясёлыя і шчырыя, яны лёгка крочаць у жыцці, упітваючы і добрае, і дрэннае. Ці змогуць яны стаць добрымі і шчырымі людзьмі, калі ва ўмовах панавання масавай культуры з такой прагнасцю ўпітваюцца ў відэастужкі, назіраючы жахі, прыніжэнні, сэкс, згвалтаванні? Гэтае пытанне цікавіць многіх, хто звяртаецца да нас у рэдакцыю.

Таму і вырашылі схадзіць у Магілёўскае ВА«Кінавідэапракат» і задаць пытанне, ці можам мы замарудзіць працэсы апошлівання, ужорствання грамадства, у жыцці якога вялікую ролю іграе кіно і відэа. Гэтае пытанне я задаў намесніку генеральнага дырэктара ПА«Кінавідэапракат» У.М.Голубеву.

**У.М.** Вельмі складанае пытанне. Мы разумеем, што амерыканізацыя нашых кінатэатраў адбываецца вельмі хутка, нам у асноўным няма чаго паказваць. А моладзь любіць амерыканскае кіно і гэта не сакрэт. Відэапракат у асноўным мы не кантралюем. У нас ёсць усяго некалькі відэазалаў у горадзе, у Бабруйску і іншых гарадах вобласці.

**КАР.:** Што ж з нашымі айчыннымі кіно і відэа?

**У.М.:** Зараз сучасных айчынных стужак амаль няма. Напрыклад, у асноўным, наша аб'яднанне дае гораду каля 95% амерыканскіх стужак, каля 1% французскіх, індыйскіх і інш., а толькі 2 ці 3% — нашых. У 88-89 г.г. калі яшчэ існаваў «Саюзкінапракат», мы нешта добрае атрымлівалі і паказвалі. Зараз жа, калі ён ліквідаваны, купляць адну стужку за 2-3 мільёны нам няма карысці.

**КАР.:** Што ж так дарага?

**У.М.:** Толькі што знятую стужку кінастудыі імкнуцца па магчымасці прадаць кааператарам. Тыя ж у сваю чаргу дзяруць з нас у 2-3 разы даражэй. Таму павышэнне кошту білетаў не залежыць ад нас. Так як мы жывём пры рынку, то спрабуем выжыць.

**КАР.:** А гэта праўда, што на нашым кінарынку індыйскія меладрамы чакаюць у кожным доме і кіназале?

**У.М.:** Так, калі б гэта быў кінарынак, справа б рабілася па-іншаму, а ў нас — базар у поўным сэнсе гэтага слова. Таму двухсерыйныя індыйскія стужкі не змогуць на ім выжыць. А круціць тыя стужкі, якія не прынясуць нам прыбытку, мы не зможам. Але у нас ёсць архіўныя стужкі, якія мы будзем час ад часу выпускаць.

**КАР.:** Які ваш погляд на будучыню?

**У.М.:** Я спадзяюся і веру, што ўся гэта неразбярыха скончыцца толькі тады, калі мы па-сапраўднаму адчуем сябе гаспадарамі сваёй зямлі.

**КАР.:** Як бачыце ВА «Кінавідэапракат» не лічыць сябе ў чым-небудзь віноўным. З аднаго боку, яго можна зразумець: рынак, канкурэнцыя, трывога за заўтрашні дзень... Але з другога боку, вялікі ўплыў на развіццё нашай моладзі аказвае кіно і гэта адмаўляць нельга. На мой погляд нямала забойстваў, боек, згвалтаванняў робіцца пад уплыўвам той ці другой стужкі.

**Хлопцы і дзяўчаты! Адчуйце, што надрукаванае — чыстая праўда. Будзем чалавечней у нашай дзікай таямнічай маладосці. І, можа, тады зможам жыць лепш і багацей духоўна.**

Міраслаў ЛІТВІНСКІ.

